# ГіЮМ 10, ст. 448

## Абвінавачваньне магілёўскіх габрэяў у забойстве Марыны Лапы дзеля рэлігійнай мэты

Року 1692, месяца траўня 6-га дню.

На радзе яго к{аралеўскай} міласьці гарадской магілёўскай пастанавілі, што асабіста я{го} м{іласьць} пан Міхал Кукшын, ад імя вяльможнага я{го} м{іласьці} пана Мікалая Андрэя Паца, графа княства Княжыцкага і Езна, ковенскага, віленскага старасты, падаў пратэстацыю на справу ў ёй ніжэй прыведзеную, да запісу ў акты гарадскія магілёўскія, наступнымі словамі напісаную:

Распавядаў і пратэставаў вяльможны я{го} м{іласьць} пан Мікалай Андрэй Пац, граф княства Княжыцкага і Езна, ковенскі, віленскі староста, аб непрыняцьці урадам замкавым таго працэсу да кніг замкавых, аб крыўдзе і вялікім жале падданых сваіх маёмасьці і воласьці княжыцкай, сяла Прысна ў павеце Аршанскім, Гаўрылы Давыдавіча Лапы і жонкі яго Марыны Івашкоўны, супраць няверных габрэяў, у горадзе яго к{аралеўскай} міласьці пражываючых і равіна абедзьвух школ габрэйскіх у Магілёве, старай і новапабудаванай, і старэйшых габрэяў, што ў кансіліюм з равінам уваходзюць, і іх начальных, Марка Майоравіча, Якуба Дуктара, Йекіэля і Мойшэ Зусмановічаў, Міхеля Мошке Баровіча, Нахіма Ісаковіча, Ільлю Злотнічына, Ёзафа, Шломінава зяця, школьнікаў і хазанаў і іншых габрэяў, што ў раду школьную да згубы хрысьціянскай імкнуцца і ўваходзюць, пра тое і такім чынам, што няверныя габрэі, будучы здаўна непрыяцелямі крыжа Сьвятога, падчас свайго сьвята ўрачыстага, што называецца Пейсахам, над людзьмі і малымі дзеткамі хрысьціянскімі жорстка зьдекваючыся, прывыклі забіваць і праліваць кроў, губіць і да сьмерці даводзіць, аб чым па розных народах і гарадах вядома і дакументальнымі працэсамі і дакументамі даведзена, і бывалі сьмерцю пакараныя; аднак, не перастаюць у сваёй заўзятасьці і злачыннай радзе пагарджаюць Правам Паспалітым і нiколькі пра яго не дбаць, тое самае робячы; што вось і зараз праз хітрыкі абскарджаных, фортэлі і нібыта таемныя шляхі, супольнай рады і змовы абскарджаных праз хазана іх школьнага, габрэя Лейбу Урыяшовіча, паказала, калі падданы пратэстуючага, пазначаны аўтар скаргі і пацярпелы, з жонкай і дзецьмі сваімі да горада Магілёва на пэўны час, з-за гора свайго, на заробкі выйшаў і там пражываў, у якога згаданы габрэй Лейба Урыяшочів, хазан, дачку, па імені Марына, на службу выпрасіў, якая прабыўшы на службе два тыдні, у годзе 1692-м, 27-га дню месяца сакавіка, без пазначанай прычыны, форталем і спосабам, як вышэй апісана, габрэйскім, паводле рады старэйшых габрэяў і равіна, жорстка і бязьлітасна ўзгаданым Лейбам, хазанам, была зьбітая і жорстка катаваная, каленямі і рукамі націснуўшы на грудзі моцна прыдаўленая і ціснутая; пакуль ён крыві, што

цякла з носу і роту, не здабыў і хустку крывавую, нібыта хаваючы свой учынак, не схаваў, а іншую хустку ёй даўшы пачаў прэч гнаць, нібыта нейкае злачынства за ёй знайшлося, і якая, не ў стане да бацькоў дайсьці, толькі назаўтра імі адшуканая была і пра гэткае катаванье перад імі і рознымі людзьмі распавядала і на споведзі капелану духоўнаму засьведчыла, і так ад Лейбы, хазана, і яго катаваньняў з гэтага сьвету сыйсьці мусіла і 3-га дню памерла і не акрыяла, і на радзе ў замку яго к{аралеўскай} міласьці магілёўскім, таксама перад урадам гарадскім магілёўскім была прэзентаваная, і на хаўтурах розным людзям знакі, што на целе былі, паказаны і засьведчаны былі. Пасьля той сьмерці і пахаваньня вышэй абскарджаныя габрэі, мала таго, хочуць яшчэ й свайго злачынства пазбавіцца і схаваць і вольнымі быць, таму ўжываюць розныя спосабы і запалохваюць аўтара скаргі і падданага аўтара пратэсту, каб ён ад справы адмовіўся, выдаўшы замкаваму ўраду ні ў чым не вінаватага чалавека, якога несправядліва і неналежна да турэмнага заключэньня пасадзілі, не дапускаюць на парукі пагарджаючы верай хрысьціянскім і сьвятам Урачыстага Ўваскрасеньня Пана Хрыста, і там трымаюць са сьвята Вяліканочнага, холадам і голада моруць і абражаюць.

Жадаючы наконт гэткай боскай і людскай крыўды справядлівасьці дасягнуць і ўсё гэта паказаць, ён даў сваё апавяданьне і пратэстацыю з вольнымі і іншымі папраўкамі да актаў гарадскіх магілёўскіх запісаць, якая ёсьць прынятая і запісаная.

---------------- <<< << < X > >> >>>----------------

Арыгінальны тэкст:

Roku tysiąc szesc set dziewięcdziesią wtorego msca Maia szostego dnia.

Na urzędzie iego kr. msci mieyskim mohilowskim postanowiwszy się oblicznie imc pan Michał Kukszyn, wielmożnego imci pana Mikołaia Andrzeja Paca, hrabi na xięstwie Kniażyckim y Jeznie, kowienskiego, wilenskiego starosty imieniem, podał protestacyią, na rzecz w niey niżey wyrażoną, ku wpisaniu do act mieyskich mohilowskich, temi słowy pisaną: opowiadał y protestował się wielmożny imsc pan Mikołay Andrzey Pac, hrabia na xięstwie Kniażnickim y Jeznie, kowienski, wilenski starosta, za nieprzyięciem przez urząd zamkowy tego processu do xiąg zamkowych, w krzywdzie y wielkim żalu poddanych swoich maiętnosci y włosci kniażyckiey, sioła Prysney, w powiecie orszanskim, na imie Hawryły Dawidowicza Łapy y żony iego Maryny Jwaszkowny, przeciwko niewiernych żydow, w miescie iego kr. msci mieszkaiących, y rabina

obudwuch szkoł żydowskich w Mohilewie, starey y nowowystawioney, y starszych żydow, w consilio z rabinem wchodzących, y ich przełożonych, mianowicie Marka Maiorowicza, Jakuba Ductora, Jekiela y Mowsze Zuszmanowiczow, Michela Moszke Borowicza, Nachima Jzakowicza, Jlle Złotniczyna, Jozepha, Szłomina zięcia, szkolnikow y chazanow y innych żydow do rady szkolney o zgubę chrzescianską staraiących się y wchodzących, o to y takowym sposobem iż niewierni żydzi, będąc zdawna nieprzyiaciele krzyża Swiętego, pod czas swięta swego uroczystego, nazwanego Peysacha, nad ludzmi y małemi dziecmi chrzescianami okrutnie pastwiąc się, mordowac y krew przelewac, gubic y o smierc przyprawowac zwykli, o czym po rożnych natiach y miastach iest iawnie y documentaliter processami y documentami okazuie się, y gardłem karani zostawali; iednak, nie przestaiąc w swey zawziętosci y złosliwey radzie, wzgardzaiąc Prawem Pospolitym y nic na onę nie dbaiąc, tož czynią; co się y teraz przez obżałowanych kunszta, fortele y zakryte iako by sposoby, spolney rady y namowy obżałowanych przez chazana ich szkolnego, Leybe Uriaszowicza, żyda, pokazało, gdy poddany protestuiącego, pomieniony żałuiący y ukrzywdzony, z żoną, dziecmi swoimi, do miasta Mohilowa na czas, dla niedostatku swego, na pożywienie wyszedł y tam przemieszkiwał, u ktorego pomieniony żyd Leyba Uryaszowicz, chazan, corki, na imie Maryny, na służbe uprosił, ktora na usługach niedziel dwie bywszy, w roku teraznieyszym tysiąc szesc set dziewięcdziesiąt wtorym msca Marca dwudziestego siodmego dnia, bez dania przyczyny, fortelem y sposobem, iako wysz opisano, żydowskim, za radą starszych żydow y rabina, srodze a niemiłoserdnie przez pomienionego Leybę, chazana, bita y okrutnie mordowana, kolanami y rękoma nalegszy na piersi, mocno dławiona y cisniona była; aż krwie, nosem y gębę cickącey, dobył y chuste krwawe, iakoby chroniąc swoy uczynek, zachował, a drugie chusty dawszy, precz wypędzac poczoł, iakoby się zbrodnia po niey pokazała, ktora, nie mogąc do rodzicow doysc, aż nazaiutrz przez

onych odyskana została y takowe morderstwo przed onymi y rożnemi ludzmi opowiedziała y kapłanowi duchownemu naspowiedzi wyznała y iż od Leyby chazana y od iego morderstwa z iego swiata zeysc muszę, iakoż trzeciego dnia zmarła y nie wytrwała y na urzędzie w zamku iego kr. msci mohilowskim, także przed urzędem mieyskim mohilowskim praesentowana, y na pogrzebie rożnym ludziom, ktorzy byli na ciele znaki, okazywano y oswiadczono się. Po ktorey smierci y pogrzebie, wysz obżałowani żydzi, mało na tym maiąc, chcąc takową swą złosc pozbyc y utaic a wolnym byc, zażywszy sposobu y straszac żałuiącego, a poddanego protestanta, aby od sprawy odbiegł, udawszy urzędowi zamkowemu nic nie winnego człowieka, nie słusznie y nienależnie do turmy więzienia usadzili y nie dopuszczaiąc na paręki na wzgardę wiary chrzescianskiey y swięta Chwalebnego Zmartwychwstania Chrystusa Pana, w onym trzymaiąc przez swięte Wielkanocne, chłodem y głodem morzyli y urągali się. O ktorą takową boską y ludzką krzywdę chcąc prawem czynic y tego wszystkiego dochodzic, dał te swoie opowiedanie y protestatią z wolną y inną poprawą do act mieyskich mohilowskich zapisac, klora iest przyięta y zapisana.